*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
***Алег Лойка***

# Слонімскі край



2019, № 1(35). Студзень

# Яўген Дацкевіч — палітык, журналіст, літаратар, артыст

У 1892 годзе ў Слоніме нарадзіўся Яўген Халімонавіч Дацкевіч, чалавек з трагічным лёсам. У архіве УФСБ па Архангельскай вобласці захаваліся матэрыялы пра яго.[1] З іх вынікае, што ў Дацкевіча была сярэдняя спецыяльная адукацыя, напярэдадні Першай сусветнай вайны ён працаваў землямерам-земляўпарадчыкам. На допыце ў 1920-м ён расказваў чэкістам, што з 1906 года (з 14 гадоў!) царскія ўлады яго праследавалі за палітычную дзейнасць, некалькі разоў даводзілася сядзець у турме. Вядома, што Яўген Дацкевіч з красавіка 1917 года быў сябрам Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Якім чынам слонімец трапіў у Архангельск? Вясной 1917-га ён уваходзіў у Віцебскі Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.[2] Аднак ужо ў ліпені таго года Яўген Дацкевіч знаходзіўся ў горадзе Ржэў Цвярской вобласці, удзельнічаў у выбарах у гарадскую Думу ў складзе сацыялістычнага блоку. У дакументах ён быў пазначаны як *"вольноопределяющийся"* 70-га пяхотнага палка. Гэта значыць, ён праходзіў вайсковую службу на льготных умовах — яе тэрмін быў скарочаны, а пасля яго заканчэння можна было здаваць асаблівы экзамен на атрыманне звання афіцэра. Магчыма, што вайсковую частку, у якой служыў Дацкевіч, перакінулі з Віцебска ў расійскі горад.



*Фота Яўгена Дацкевіча з кнігі "Белый Север"*

Сацыялістычны блок выйграў выбары, слонімец увайшоў у гарадскую Думу.[3] Больш таго, яго выбралі кіраўніком горада (*"городским головой"*).[4] Але праз некалькі месяцаў з дэмакратыяй было

*Працяг на ст.3.*

# Дакументальны фільм пра Васіля Пеляніцына




Слонімскі журналіст і краязнаўца Васіль Афанасік прэзентаваў 45-хвілінны дакументальны фільм пра Васіля Пеляніцына (1918 — 1975), кіраўніка Слонімскага гарадскога савета ў 1963-1975 гадах. Якраз у той час у нашым горадзе былі пабудаваны многія важныя аб'екты (раённая бальніца, камвольна-прадзільная фабрыка, спарткомплекс і г. д.), узводзілася жыллё, добраўпарадкоўваліся вуліцы. Прынята лічыць, што Пеляніцын быў ці не самым лепшым мясцовым кіраўніком у савецкія часы.

Фільм даступны на YouTube.

ХРОНІКА

# Помнік Міхалу Казіміру Агінскаму



З ініцыятывы грамадскага аб'яднання "СлонімКаналАгінскага" сёлета ў нашым горадзе могуць усталяваць помнік слонімскаму старосце, дзяржаўнаму дзеячу ВКЛ і Рэчы Паспалітай Міхалу Казіміру Агінскаму (1730 — 1800). Праект пакуль узгадняецца. Дакладна невядомае і месца, дзе з'явіцца помнік, але верагодна ў раёне канала і вуліцы Опернай. Над ім ужо працуе скульптар Уладзімір Вількіцкі.

Як вядома, сёлета ў Слоніме ўсталююць помнік слонімскаму старосце, канцлеру ВКЛ Льву Сапегу.

●Генадзь Гурскі

# Выстава "За волю, незалежнасць, свабоду"






У Слонімскім краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага з 15 студзеня праходзіць выстава, прысвечаная 225-м угодкам вызваленчага паўстання 1794 года. Ім кіраваў наш зямляк Тадэвуш Касцюшка (1746 — 1817), нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША. Увагу наведвальнікаў прыцягнуць унікальныя гравюры і прадметы, якія адносяцца да XVIII-XIX стагоддзяў.

*Фота: slonves.by*

ЗАБЫТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Яўген Дацкевіч — палітык, журналіст, літаратар, артыст

*Працяг, пачатак на ст.1.*

скончана — бальшавікі ўсё бралі пад свой кантроль, а рускую армію развалілі. Дацкевіч з аднадумцамі падаўся на поўнач.

У 1919-м слонімец неяк распавядаў, што яго чатыры разы кідалі ў турму. Відаць, тройчы царскія ўлады і аднойчы (на той час) бальшавікі. Чэкісты адправілі яго, “палітычнага”, у камеру да крымінальнікаў. Дацкевіч аднак знайшоў з імі агульную мову, а пасля і здолеў вырвацца з турмы на волю (верагодна, ён быў у зняволенні ў Ржэве). У пачатку жніўня 1918-га разам з правымі эсэрамі і іншымі антыбальшавікамі Яўген Дацкевіч удзельнічае ў паспяховым паўстанні ў Архангельску.

Ёсць звесткі, што яшчэ адзін беларус-эсэр Міхаіл Ліхач быў накіраваны ў гэты горад ЦК партыі для ўзняцця паўстання супраць бальшавікоў.[5] Праўда, Ліхача адправілі туды ў пачатку лета 1918-га, а Дацкевіч там нібыта з’явіўся ўжо ў траўні.[6] Зусім магчыма, што яны дзейнічалі сумесна.

У 1918-1920 гадах у Архангельску панавала антыбальшавіцкая Паўночная белая армія, існаваў часовы ўрад. Яўген Дацкевіч у гэты час быў рэдактарам штодзённай газеты *“Вестник Временного правительства Северной области”* (раней — *“Вестник верховного управления Северной области”*). Выданне рабілася на дастаткова прафесійным узроўні.

Слонімец выступаў на мітынгах перад рабочымі. У канцы 1918-га Дацкевіч гаварыў



ВѢСТНИКЪ
ВРЕМЕННАГО ПРАВИТЕЛЬСТВА
СѢВЕРНОЙ ОБЛАСТИ.

№1. | Четвергъ 10, октября 1918 года. | Архангельскъ.

Начальникъ Охраны Воднаго раiона Архангельскаго порта объявляетъ,

Редакторъ Е. Ф. Дацкевичъ.



Секретаріатъ
ВРЕМЕННАГО ПРАВИТЕЛЬСТВА
Бюро Печати.
ПРИКАЗЪ
№ 1
отъ 10 января 1919 года.
По канцеляріи.

§ 1.
Назначаются: дѣлопроизводитель Евгеній Николаевичъ Грошевъ — секретаремъ Бюро Печати съ 1 января 1919 года.

§ 2.
Ольга Андреевна Самсонова—сторожихой съ 1 января 1919 года.

§ 3.
Увольняются: Николай Сергѣевичъ Елагинъ, числившійся свободнымъ сотрудникомъ, съ 1 января 1919 г., согласно собственному желанію.

§ 4.
Соломонида Евдокимовна Юшманова—сторожиха, съ 1 января 1919 г., согласно собственному желанію.

Завѣдующій Бюро Печати
Е. Дацкевичъ.



Секретаріатъ
ВРЕМЕННАГО ПРАВИТЕЛЬСТВА
Бюро Печати.
Приказъ
№ 1.
отъ 17 января 1919 года.

§ 1.
Завѣдующій Бюро Печати при Временномъ Правительствѣ и Редакторъ «Вѣстника Временнаго Правительства Сѣверной Области» Е. Ф. Дацкевичъ, согласно желанію, увольняется отъ службы по названнымъ должностямъ съ 17 января.

§ 2.
Завѣдующимъ Бюро Печати при Временномъ Правительствѣ Сѣверной Области назначается С. Н. Мацкевичъ съ 17 января с. г.

§ 3.
Временное исполненіе обязанностей редактора «Вѣстника Временнаго Правительства» возлагается на Завѣдующаго Бюро Печати С. Н. Мацкевича.

Секретарь Временнаго Правительства
Зубовъ.

на сударамонтным заводзе, што “бальшавікі наўмысна сказілі форму Саветаў… канчаткова разбурылі эканамічнае жыццё краіны”. Ён згадаў пра расстрэлы без суда і следства, пра разгон Устаноўчага сходу ў Расіі, пра разгон Беларускага з’езду “п’яным прапаршчыкам Крывашэіным”.[7] Апошняя згадка сведчыць пра тое, што на чужыне Яўген Дацкевіч сачыў за падзеямі на радзіме. А ці не быў ён удзельнікам таго Усебеларускага з’езду? Цікава, што слонімец прапагандаваў

# Яўген Дацкевіч — палітык, журналіст, літаратар, артыст

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3.*



пачатак "трэцяй рэвалюцыі", "народнай, з сялянскай ідэалогіяй". Ён заклікаў падтрымліваць партызанаў, якія ваявалі ў бальшавіцкім тыле.

Рэдагаваннем *"Вестника…"* Дацкевіч займаўся з жніўня 1918-га да студзеня 1919 года. Адначасова ён быў загадчыкам бюро друку пры часовым урадзе Паўночнай вобласці. З гэтай пасады і з пасады рэдактара газеты сышоў на ўласнае жаданне 17 студзеня 1919 года. Пасля адстаўкі ён уваходзіў у праўленне губернскага саюза кааператываў, быў старшынёй "прафсаюза работнікаў зямлі", рэдагаваў газету *"За Родину"*, якую выдаваў Аб'яднаны камітэт Архангельскіх грамадскіх арганізацый.

Можна меркаваць, што Яўгену Дацкевічу не толькі не падабалася ўлада бальшавікоў, не быў ён у захапленні і ад улады часовага ўраду. А праца ўнутры ўладных структур белых толькі павялічыла расчараванне. Як чалавек ідэйны, Дацкевіч не на словах, а на справах абараняў правы працоўных. Верагодна ўзнік канфлікт з уладамі, бо летам 1919-га арганізаваўся нелегальны страйкавы камітэт і слонімец быў яго сябрам. Контрразведка белых выкрыла "падполле" ў пачатку верасня, Яўгена Дацкевіча арыштоўвалі за агітацыю сярод рабочых.[8] Магчыма, гэты арышт і аўтарытэт сярод рабочых выратавалі яму жыццё пасля прыходу ў Архангельск бальшавікоў.

Яўген Дацкевіч быў энергічным чалавекам. Дзіўна, як ён паспяваў выконваць усе свае шматлікія абавязкі (быў яшчэ сакратаром саюза транспартных рабочых). Восенню 1919 года слонімец арганізуе ў Архангельску драматычны тэатр, стаў яго дырэктарам. А яшчэ ён быў акцёрам, выступаў у спектаклях пад псеўданімам "Данаеў".[9] Даследчык Юрый Дайкоў з сумам піша, што ў кнізе "Тэатральны Архангельск" пра Дацкевіча няма ні слова… А тэатр быў папулярным, на спектаклях — аншлаг, у мясцовай прэсе — пазітыўныя рэцэнзіі. Можна ўявіць, колькі высілкаў прыкладаў Яўген Дацкевіч для таго, каб яго праект жыў. Бо ішла вайна.

Летам 1919-га з поўначы Расіі пачалі выводзіцца войскі заходніх саюзнікаў (англічан, амерыканцаў, французаў). Паўночная белая армія самастойна не змагла супрацьстаяць Чырвонай Арміі і ў лютым 1920 года капітулявала. За мяжу здолелі ўцячы не больш за 2 тысячы антыбальшавікоў, дзясяткі тысяч прыхільнікаў белага руху засталіся на месцы. Пачаліся арышты і расстрэлы.

Яўгена Дацкевіча арыштавалі ў Архангельску ў верасні-кастрычніку 1920-га, дапытвалі. У дакументах справы пазначана: сям'і няма, прыватнай маёмасці не меў і не мае. Слонімец называў сябе беспартыйным, сцвярджаў, што выйшаў з партыі эсэраў яшчэ ў 1918 годзе. 13 чэрвеня 1921 года Архангельская губернская ЧК за прыналежнасць да партыі эсэраў асудзіла яго на 5 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна. Па гэтым прысудзе Яўген Дацкевіч рэабілітаваны 17 снежня 1992-га.

Дацкевічу пашанцавала больш, чым эсэру Сямёну Мацкевічу, які яго змяніў на пасадзе рэдактара *"Вестника…"*. Мацкевіча бальшавікі расстралялі ў 1920 годзе.[10]

З Архангельскай вобласці, дзе яго ведалі, Дацкевіч з'ехаў у Яраслаўскую вобласць, працаваў па сваёй спецыяльнасці землямера, нават займаў кіраўнічыя пасады. У ліпені 1930 года яго арыштавалі. У сакавіку 1931-га прызналі вінаватым у агітацыі супраць савецкай улады і на тры гады адправілі ў… Паўночны край.[11] Па другім

прысудзе Яўгена Дацкевіча рэабілітавалі ў студзені 1989 года.

У лістападзе 1936-га ў Ленінградзе быў арыштаваны ўраджэнец Слоніма Апанас Халімонавіч Дацкевіч, 1888 года нараджэння.[12] Відаць, брат Яўгена Халімонавіча. Ён быў начальнікам паравознага дэпо. Вясной 1937-га нашага земляка расстралялі…

Як удалося высветліць, Яўгена Дацкевіча бальшавікі ў чарговы раз арыштавалі ў тым жа 1937 годзе ў Волагдзе. Шанцаў на выратаванне не было. У снежні “тройка” *УНКВД* Валагодскай вобласці вынесла прысуд — расстрэл. Яго выканалі 20 студзеня 1938 года.[13]

●Сяргей Ёрш

*[1] Дойков Ю. Красный террор. Россия. Украина. 1917 — 1924. — Архангельск, 2008. С. 211.*
*[2] Белый Север. 1918 — 1920 гг.: Мемуары и документы. Выпуск 1. — Архангельск, 1993. С. 385.*
*[3] Кондратьев О. 100 лет «Ржевской правде»: Ржев в июле 1917-го // Ржевская правда, http://presska.ru/archives/9421/3*
*[4] Дойков Ю. Евгений Дацкевич. Литератор-артист // http://doykov.com/lj/evgenij-datskevich-literator-artist/*
*[5] Белый Север… С. 395.*
*[6] Евгений Дацкевич. Литератор-артист…*
*[7] К чему привели большевики? // Вестник Временного правительства Северной области, 1919, № 2, 3 студзеня.*
*[8] Белый Север… С. 385.*
*[9] Евгений Дацкевич. Литератор-артист…*
*[10] Белый Север… С. 398.*
*[11] Жертвы политического террора в СССР // http://lists.memo.ru/d10/f353.htm*
*[12] Ленинградский мартиролог. Том 4 // http://visz.nlr.ru/person/book/t4/0/1080*
*[13] Белый Север… С. 385.*

ВѢСТНИКЪ ВРЕМЕННАГО ПРАВИТЕЛЬСТВА
СѢВЕРНОЙ ОБЛАСТИ

ДРАМАТИЧЕСКІЙ ТЕАТРЪ
Антреприза Е. Ф. ДАНАЕВА.
Клубъ Торгово Промышленныхъ Служащихъ.
(Псковскій, 39, Тел. 3—69).
Начало ровно въ 7¾ ч. вечера.
Касса открыта съ 11 до 2 ч., съ 5 до 9 ч. вечера.
Билеты служатъ пропусками.
11?1-а

ПО НЕЗАВИСЯЩИМЪ ОТЪ ДИРЕКЦІИ ОБСТОЯТЕЛЬСТВАМЪ
ОТКЫТІЕ
ДРАМАТИЧЕСКАГО ТЕАТРА
ОТКЛАДЫВАЕТСЯ
О ВРЕМЕНИ ОТКРЫТІЯ И ПРОДАЖѢ БИЛЕТОВЪ БУДЕТЪ ОБЪЯВЛЕНО ОСОБО.
1—1

Литература и искусство.

Клубъ торгово-промышленныхъ служащихъ.
*Оперетта «Красное Солнышко».*
Оперетта «Красное Солнышко» была поставлена 8-го января уже въ 3-й разъ. Нужно отдать справедливость артистамъ-любителямъ въ томъ, что они все болѣе и болѣе завоевываютъ вниманіе и симпатію публики, которая за послѣднее время особенно охотно и въ большомъ числѣ посѣщаетъ театръ. Свободныхъ мѣстъ совершенно не было и частые и
Остальные исполнители и хоръ поддерживали ансамбль, и общая постановка оперетты весьма удовлетворительна, въ чемъ безусловно—заслуга г. Данаева, сумѣвшаго въ столь тяжелый моментъ къ общему пріятному удивленію дать Архангельску хорошій театръ.
В. В.

Въ пятницу, 12-го декабря,
КОМИЧЕСКАЯ ОПЕРЕТТА
„Красное Солнышко“.

Литература и искусство.

Корневильскіе колокола.
*(Оперетта, театръ Данаева).*
Все относительно…
Послѣ фронта съ его сугробами, съ однообразіемъ зимней стоянки.
Послѣ угнувшаго лѣса, надоѣдливо тихаго…
Послѣ дымныхъ землянокъ, низкихъ избъ, холодныхъ теплушекъ… Послѣ всего этого—право, оперета, поставленная въ театрѣ Данаева показалась недурной. Почти художественной. Слегка изящной. И даже не вульгарной…
И хотѣлось все кривое-неправильное не видѣть, пропустить мимо глазъ. Точно было и не было.
Да нѣтъ! Полно!
Нѣтъ линій неуклюжихъ въ фигурѣ премьерши Леердиковой! И томъ игры ея не слащавъ и не баналенъ! Нѣтъ! Это только кажется
И Рублева не играетъ изящно кстати и некстати своими громадными руками локтями!
И теноръ Емельяновъ не напоминаетъ вовсе статиста, забывающаго слова и, неосмысленно цѣпляющагося ихъ одно за другое!
И нѣтъ на маркизѣ Ядовѣ желтыхъ ботфортъ…
Нѣтъ, все это было и не было!…
И все-таки… Послѣ фронта пріятно поглядѣть оперету въ театрѣ Данаева.
Борисъ Чужой.

ДРАМАТИЧЕСКІЙ ТЕАТРЪ.
Антреприза Е. Ф. ДАНАЕВА.
Клубъ Торгово-Промышленныхъ Служащихъ.
(Псковскій, 39, Тел. 3—69).
Начало ровно въ 7¾ ч. вечера.
Касса откры. съ 11 до 2 ч., съ 5 до 9 ч. вечера.
Билеты служатъ пропусками.

Во вторникъ, 16-го декабря,
I. „РОКОВАЯ ЗАГАДКА“.
Пьеса въ 1 дѣйств., Артура Шницлера.
II. „Супружеская экономія“.
Мин. Алексѣя Курбскаго.
III. „КНЯЖНА АЗВЯКОВНА“.
Гуселька въ 1 д. Сл. Чужъ-Чуженина.
Муз. В. Г. ПЕРГАМЕНТА.
Главный режиссеръ В. А. Моревъ.
Администраторъ М. Н. Розенбергъ-Цымбаревичъ.

# Зноў пра першую слонімскую газету

**„Der Schara-Lurch".**
Der Kopf des Blattes zeigt unter dem Titel ein lachendes Froschgesicht; der Untertitel lautet: „Zeitschrift für feldgrauen und laubgrünen Humor". Ein Herausgeber ist nicht genannt. Redaktion und Verlag befinden sich nach einem Vermerk in den ersten Nummern zu Slonim, Paradenstraße. Slonim liegt an dem Flüßchen Schara; daher also der Name. Lurch ist der abgebildete Frosch. Im Frühjahr 1916 erschien die erste Nummer. Die anderen folgten periodisch in ziemlich langen Abständen. Nr. 3 ist vom ersten Juli 1916, Nr. 10 vom 20. Dezember 1916. Einmal auf grünem,

Пра “Шчараўскую жабу” мы ведаем мала. Дагэтуль удалося пабачыць толькі адзін яе нумар, але дзякуючы гэтаму мы не прапусцілі юбілей — 100-годдзе слонімскага перыядычнага друку, якое прыпадала на 2016 год. Да яго была падрыхтаваная кніга.* І вось нядаўна чарговая знаходка. У нямецкай кнізе, якая выйшла сто гадоў таму, знайшлося апісанне слонімскага выдання, там жа змешчана выява першай старонкі іншага нумару “Шчараўскай жабы”. Больш таго, паведамляецца, у якім месяцы выйшаў першы нумар!

Нямецкамоўная газета “Der Schara-Lurch” (“Шчараўская Жаба”) — гэта “гумарыстычны часопіс шэрых палёў і зялёнай лістоты”. Макет быў рукапісным, пасля памнажаўся з дапамогай апалаграфіі, але наўрад ці наклад быў вялікі (відаць, некалькі дзясяткаў асобнікаў). Меркавалася, што першы нумар “Шчараўскай Жабы” выйшаў вясной 1916-га.** Аднак аказалася, што гэтая падзея адбылася крыху раней.

Аўтару гэтых радкоў удалося адшукаць рэдкую кнігу — даследаванне Рыхарда Гельмана і Курта Пальма, прысвечанае нямецкай вайсковай прэсе. Яна выйшла з друку ў 1918 годзе.*** Даследчыкі сабралі матэрыял па “гарачых слядах” — яшчэ падчас вайны. У кнізе прысутнічае інфармацыя і пра слонімскую газету.****

Што пішуць Гельман і Пальм? Першы нумар “Шчараўскай Жабы” з’явіўся ў лютым 1916 года. Цікава, што наша з Сяргеем Чыгрыном кніга выйшла ў лютым 2016-га, якраз на 100-я ўгодкі слонімскага перыядычнага друку. У выдання не было стабільнай перыядычнасці (пры гэтым каля лагапыту было пазначана: “з’яўляецца перыядычна”). Напрыклад, № 3 выйшаў 1 ліпеня. Значыць, другі нумар выпусцілі дзесьці вясной. У кнізе нямецкіх даследчыкаў змешчана выява № 7, які выйшаў 26 жніўня 1916 года. Падчас падрыхтоўкі кнігі пра гісторыю перыядычнага друку нам быў вядомы № 9 ад 1 лістапада (атрымліваецца, што восьмы нумар з’явіўся ў верасні-кастрычніку). Таксама была інфармацыя, што дзясяты нумар пазначаны 20 снежня 1916 года. Яго ж згадваюць Рыхард Гельман і Курт Пальм. Ці выходзіла газета ў 1917 годзе, яны нічога не паведамляюць.

У кожным нумары выдання былі “пацешныя малюнкі і карыкатуры”. Паколькі яно было разлічанае на нямецкіх вайскоўцаў, дык яны і былі героямі сюжэтаў, прыдуманых





*Рэдакцыя газеты “Шчараўская Жаба” была ў адным з гэтых будынкаў на Параднай вуліцы.*

мастаком, а можа і тых, што мелі рэальную аснову.

На жаль, Гельман і Пальм нічога не даведаліся пра выдаўцоў газеты. Адзначаюць, што і ў першых нумарах яны не пазначаныя. Затое пішуць, што спачатку ў "Шчараўскай Жабе" быў пазначаны кошт — 5 пфенінгаў. У наступных нумарах ён знік. Відаць, праект не ўдалося зрабіць камерцыйным.

Рэдакцыя першай газеты ў нашым горадзе знаходзілася на Парадной вуліцы (цяпер — Першамайская, ніжняя яе частка). У той час гэта быў цэнтр культурнага жыцця, там знаходзіліся кінатэатр, тэатр, фотамайстэрня, кнігарня.

●Сяргей Ёрш



Jahrgang 1. Nummer 7.

Der Schara-Lurch

Zeitschrift für Feldgrauen und laubgrünen Humor

Erscheint periodisch Slonim, den 26.8.16. Kriegsnummer.

*Ёрш С., Чыгрын С. Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916 — 2016). — Мінск: Кнігазбор, 2016. Публікацыі на гэтую тэму ў "СК": [Ёрш С.] 100 гадоў слонімскаму перыядычнаму друку // Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 1; Ёрш С., Чыгрын С. "Шчараўская Жаба" — першая газета ў Слоніме // Слонімскі край, 2016, № 2. Сакавік. С. 2.

**Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны… С. 4.

***Hellmann R., Palm K. Die deutschen Feldzeitungen. — Freiburg: Verlag der Fr. Wagner'schen Universitätsbuchhandlung, [1918].

****Тамсама. С. 50.



# Здымак Барыса Вайнштэйна

У працяг публікацыі ў мінулым нумары “СК” пра паштоўку слонімскага фатографа Барыса Вайнштэйна* змяшчаю яшчэ адну яго працу. Гэта вядомая паштоўка з выявай Рынкавай плошчы (цяпер — плошча Леніна) ў Слоніме. Гэтае фота Вайнштэйнам было зроблена напярэдадні Першай сусветнай вайны. Яно трапіла на паштовую картку, якая выйшла не пазней за кастрычнік 1914 года. Надпісы на ёй выкананыя на рускай і польскай мовах. Пазначана, што гэта фота Вайнштэйна. У той час яго слонімскія здымкі былі змешчаны на некалькі паштовых картак.

Падчас нямецкай акупацыі ў 1916-1917 гадах гэты здымак трапіў на паштоўку, якая вядомая, як мінімум, у чатырох варыянтах. Два з іх маюць надпісы на нямецкай і польскай мове, іншыя — выключна на нямецкай. Сярод апошніх ёсць паштоўка з памылкай, якая адшукалася на сайце akpool.de. Яна была ў слове “Marktplatz“. На адвароце гэтай паштоўкі пазначана на нямецкай мове: “Фатограф Барыс Вайнштэйн, Слонім, Парадная вуліца, 14”. Атрымліваецца, што Вайнштэйн быў у той час у горадзе і сам выдаваў паштоўкі. І адносіўся ён да такой працы неахайна, адсюль і памылкі. Адсюль з’яўляюцца і “таямнічыя аб’екты” на паштоўках.

На тым жа сайце ёсць іншая паштоўка са здымкам Вайнштэйна. Нямецкамоўны надпіс на ёй змешчаны на белым полі пад фота. На адвароце няма звестак пра выдаўца, таму невядома, ці гэта фатограф выправіў сваю памылку, ці гэта зрабілі немцы, якія актыўна друкавалі паштоўкі.

●Генадзь Гурскі
















**Гурскі Г. Зноў пра “таямнічы аб’ект” // Слонімскі край, 2018, № 12(34). Снежань. С. 17.*

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Пра Жыровічы і Слонім гаварылі на аператыўнай нарадзе ў Гродне

Гродзенскі аблвыканкам у студзені абмеркаваў планы на 2019 год — галоўныя будоўлі і інвестпраекты. Аператыўнай нарадай кіраваў старшыня аблвыканкама Уладзімір Краўцоў. Як піша "Гродзенская праўда", гаворка ішла пра добраўпарадкаванне Жыровічаў і Слоніма. У першым выпадку яно прымеркавана да адзначэння ў 2020-м 500-годдзя Свята-Успенскага манастыра, у другім — да правядзення сёлета Дня беларускага пісьменства. Чыноўнікі заявілі, што "і раённы цэнтр, і аграгарадок на Слонімшчыне заўважна зменяцца да знакавых падзеяў".

Усе нумары "Слонімскага краю" можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат" : http://kamunikat.org/





*Фота: belarus.mid.ru*

# Расійскі пасол у Жыровічах



7 студзеня Жыровіцкі манастыр наведаў расійскі пасол у Беларусі Міхаіл Бабіч. Для яго наладзілі экскурсію па святыні. Ён сустракаўся з архіепіскапам Навагрудскім і Слонімскім Гурыем, намеснікам Жыровіцкага Успенскага манастыра. Абмяркоўваліся сумесныя праекты.

*Расійскі пасол Міхаіл Бабіч у праваслаўным храме трымае рукі ў кішэнях.*
*Фота: belarus.mid.ru*

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# У праваслаўным манастыры чыталі часопіс “Калосьсе”

У 1936 годзе ў віленскі беларускі літаратурна-навуковы часопіс “Калосьсе” прыйшла паштовая картка са Слонімшчыны. Нехта Уладзімір Будзіловіч пісаў на польскай мове, што вельмі хацеў бы атрымаць нумар выдання. Таксама ён абяцаў выпісаць газеты, якія выдае рэдакцыя. Відавочна, што польскай мовай Будзіловіч карыстаўся рэдка, пісаў з памылкамі.

Зваротны адрас быў наступны: Слонімскі павет. Жыровіцкі праваслаўны манастыр. Уладзімір Будзіловіч. Хто ён такі? Адкуль даведаўся пра беларускі часопіс, які выходзіў у далёкай Вільні? Ці стаў ён яго сталым чытачом? Магчыма, хтосьці з чытачоў “Слонімскага краю” падкажа нешта пра гэтага чалавека і яго лёс.

З пазнак на паштовай картцы можна зрабіць выснову, што часопіс дасылалі ў Жыровічы. І, як мінімум, двойчы.

●Сяргей Ёрш


TELEFON USPRAWNIA ŻYCIE, ZBLIŻA I PRZYSPIESZA!

KARTKA POCZTOWA

POCZTA POLSKA Gr 15

NADAWCA:

Powiat Słonim
Klasztor Prawosławny Żyrowice
Budziłowicz
Włodzimirz

Wilno
ul. Zawalna 1–2
adr. Redakcija i admistraciomy Kalosie
Biełaruskaja Drukarnia

M. P. i T. (III–1935) 15.000.000.

31/1936 Prosse Pana direktora ja srosie
żeby przystali mni kazde Kalosie
a ja pemądkie przyste poszego tak ja
prosze żeby przystali bo ja chcem przystompic do waszej organizacji jeśli możno to
prosse dać mi odpowiedź to ja będa
wypisać wasze gazety jakie u was jest
to prosse pania derektora żeby pan wistał
książeczka Kalosie ja bardzo prosze
pana ja będa ~~tez~~ czekać książki a pemądkie przyste po pierwszym.

*Паштовая картка захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі. Друкуецца ўпершыню.*






УСПАМІНЫ

# Два месяцы на службе ў савецкай улады

Зусім нядаўна ўлады шырока адзначылі 100-я ўгодкі абвяшчэння ў Смаленску савецкай Беларусі. Асноўны пасыл — менавіта дзякуючы БССР існуе цяперашняя незалежная РБ. Безумоўна, яна з'яўляецца важным звяном у працэсе здабыцця незалежнасці. Аднак пры гэтым трэба гаварыць праўду пра поўную залежнасць савецкай Беларусі ад Масквы, пра рэпрэсіі, пра планамерную русіфікацыю, сумныя вынікі якой мы цяпер назіраем.

Слонім быў у складзе савецкай Беларусі амаль паўстагоддзя. Спачатку з 14 студзеня 1919-га да 1 сакавіка 1919 года — з часу сыходу нямецкіх акупантаў і да прыходу польскіх, пасля — з 21 ліпеня 1920-га да 27 верасня 1920 года, з 18 верасня 1939-га да 25 чэрвеня 1941 года, з 10 ліпеня 1944-га да снежня 1991 года, да часу ліквідацыі СССР.

Успаміны Надзеі Яфімаўны Гайдук асвятляюць падзеі 1920 года. Вяртанне з бежанства, праца ў бальшавіцкім рэвалюцыйным камітэце ў Слоніме і эвакуацыя на ўсход. Гайдук згадвае шмат цікавых дэталяў. Напрыклад, пра адносіны слонімцаў, якія заставаліся ў горадзе падчас нямецкай акупацыі, да тых гараджан, якія вярталіся з бежанства. Альбо пра тэлефанаграму з Расіі бальшавіка Гродзенскага, які прасіў не крыўдзіць яго бацьку, які меў у Слоніме аптэку. Безумоўна, нямала засталося па-за кадрам. На той час Надзеі было крыху больш за 20 гадоў. І яна шчыра піша, што ўспамінае толькі пра пабачанае асабіста. Мерапрыемствы савецкай улады былі жорсткімі, таму незадаволеных ёй хапала. І ў Гайдук не было выбару — нават суседка казала, што польскія ўлады яе адправяць на шыбеніцу. Яна пакінула родны горад, з надзеяй у яго хутка вярнуцца. Гэта была і спроба вырвацца з галечы, у якой жыла яе сям'я.

Успаміны Надзеі Гайдук захоўваюцца ў Народным музеі імя А. Жукоўскага СШ № 4 г. Слоніма. У арыгінале яны напісаныя на рускай мове.



*На Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы) у 1920 годзе знаходзіліся органы савецкай улады ў Слоніме.*



*Надзея Гайдук*

●Сяргей Ёрш

У 1920 годзе мая сям'я апынулася амаль на мяжы голаду... Мы вярнуліся з бежанства праз нямецкі (ці аўстрыйскі) канцлагер, які знаходзіўся ў горадзе Баранавічы [да пачатку 1919-га]. Каля чатырох месяцаў ехалі з Бранску ў Слонім. Нацярпеліся… Нас было 8 чалавек. На ўсіх было выпісана адно пасведчанне за нумарам 82764/71, якое знаходзілася ў маці. Трапілі ў яўрэйскую бальніцу, у якой праз два дні страцілі ад сыпнога тыфу двух сясцёр і двух братоў. У Слонім я прыехала легальна ў пачатку 1920 года.

…Наш дом і сад, агарод ужо былі не нашыя, а грамадзяніна Анекштэйна, купца. Ён жыў у ім з 1915 года і ўжо амаль лічыў, што мы не вернемся і неяк няпраўдамі аформіўся арэндатарам. Маму з сям'ёй ён не прыняў у наш жа дом і мы,

# Два месяцы на службе ў савецкай улады

*Працяг, пачатак на ст.11.*

калі выйшлі з бальніцы (куды ўвайшлі, а дакладней, куды было ўнесена восем чалавек, а выйшла толькі чатыры…), пасяліліся ў маленькім флігелі на падворку, які пабудаваў бацька для сваіх працаў. У яго былі “залатыя рукі”, думаў жыць, але скарацечныя сухоты забралі жыццё за некалькі месяцаў.

Я прыехала з бежанства пазней і сям’і стала яшчэ цяжэй. Сястра, як толькі ўстала на ногі, так і засталася працаваць у заразным аддзяленні яўрэйскай бальніцы. Гэта была не праца, а подзвіг! Працавала сястрой міласэрнасці — санітаркай, такое было сумяшчальніцтва. У сям’і быў паўголад, а тут яшчэ і я захварэла сыпным тыфам. Паколькі ў сям’і ўсе ўжо перахварэлі, то я засталася дома і таму выжыла.

Неўзабаве Слонім быў вызвалены Чырвонай Арміяй. Біржа працы ўзяла на ўлік усё працаздольнае насельніцтва і стала накіроўваць на зноў арганізаваныя прадпрыемствы на працу. Я была яшчэ слабая і біржа працы дазволіла мне некалькі дзён вылежаць (мама выпрасіла). Прайшло некалькі дзён і я атрымала загад з’явіцца на працу ў Слонімскі фінансавы аддзел.



ПРИКАЗ
Слонимского Уездного Военно-Революционного
Комитета.

г. Слоним. № 28. 7 сентября 1920 г.

§ 1.

Комхоз немедленно должен озаботиться об организации домовых комитетов и возложить на таковых ведение домовых книг.

§ 2.

Немедленно национализировать Комхозу гостиницу Виктория и другую одну из крупных, по усмотрению, предварительно выработав инструкции о национализации и назначив коменданта таковых.

§ 3.

Немедленно Совнархозу национализировать типографии Волаха и Гурвича, назвав первую—I-ой Советской типографией, а вторую—II-ой Советской типографией.

§ 4.

Вышеозначенным типографиям не принимать печатать что либо без регистрационной пометки информационно-инструкторского подотдела.

§ 5.

Все ненационализированные типографии взять на учет и опечатать.

§ 6.

Начальнику Уездно-городской Милиции немедленно организовать адресный стол и стол выдачи удостоверений.

§ 7.

Информационно-инструкторскому подотделу собрать точные адреса всех организаций и учреждений функционирующих в гор. Слониме, а также адреса членов Ревкома и заведывающих отделами.

Предревкома Ткачевич.

Секретарь Рахлина.

*Фота: just.grodno.by*

Што я з сябе ўяўляла ў той час? Пасля тыфу чалавек мае патрэбу ў харчаванні (у яго павышаны апетыт), і я была галодная як бадзяжны сабака. І мяне часта праследавала думка, як не ўпасці ад слабасці на працы… Я заўсёды старалася не згадваць гэты перыяд жыцця: вяртанне маёй сям’і з бежанства, іх жыццё ў канцлагеры і маё сумеснае з імі жыццё у 1920 годзе. Я заўсёды адганяла прэч гэтыя страшныя ўспаміны.

Што я рабіла ў фінаддзеле? Сядзела каля тэлефона па прыёме тэлефанаграмаў, але іх амаль не было і мяне перавялі ў рэвалюцыйны камітэт (рэўкам) на пасаду бухгалтара. Гэта было 1 жніўня 1920 года. Я па выглядзе, ды і па ведах, не падыходзіла для такой саліднай пасады і мяне пасадзілі “на тэлефон” зноў. Праца ў рэўкаме ішла не толькі ўдзень, але і ўначы, калі даводзілася дзяжурыць. Гэтыя начныя дзяжурствы прыпадалі на кожныя трэція суткі. Працы было шмат і мне яна падабалася, але задрамаць не было калі. У памяці засталіся некалькі тэлефанаграмаў. Была тэлефанаграма з горада Навасібірска, у якой старшыня ўезднага выканаўчага камітэта Гродзенскі, сын слонімскага

аптэкара (адзін з багатых яўрэяў), прасіў старшыню Слонімскага рэўкама не рабіць на яго бацьку ніякага ўціску, захаваць за ім дом і аптэку. Старшыня рэўкаму і яго намеснік (маладая яўрэйка, калі я не памыляюся, па прозвішчы Століна) доўга абмяркоўвалі гэтую тэлефонаграму. Як здалёк яна прыйшла і што слонімец Гродзенскі вельмі ўплывовая асоба!

Што я бачыла? У палітыцы я нічога не разумела. Запомнілася, што ў рэўкаме было шмат служачых і заўсёды шмат вайскоўцаў. Ішла вайна… У рэўкаме працавала машыністкай Вера Мікуліч, муж якой ці ў 1918-м, ці ў 1919-м годзе быў расстраляны як камуніст і работнік слонімскага рэўкаму. Была яна вельмі пісьменнай жанчынай, а жыла ў галечы. Мікуліч выехала з горада з чатырохгадовым сынам 27 верасня 1920 года. Загадчыкам фінаддзела быў Валодзя Гараст, ураджэнец Альбярціна. У яго былі двое дзяцей. З'язджаючы з намі, ён жонку і дзяцей не ўзяў. Пасля вельмі шкадаваў, захварэў. З усімі сардэчна развітаўся, сказаў, што з-за нясцерпных боляў галавы вымушаны пагадзіцца на трэпанацыю чэрапу і спадзяецца на добры зыход. Прасіў мяне, каб, калі вернемся, я пабывала ў Альбярціне ў яго сям'і і ўсё пра яго расказала, як памёр. Здавалася, што хутка вернемся, праз тры-чатыры месяцы, а атрымалася, што праз 20 гадоў…

Памятаю яшчэ брата Гараста, але ў яго было прозвішча Бувалы, і хадзіў ён у вайсковай форме каманднага складу. Памятаю таксама, што загадчыкам народнай асветай быў Сямён Канстанцінавіч Семянчук, заўгасам гарадскім грамадзянін Меркін. Гэтыя



ПРИКАЗ № 1

В дополнение к объявлению от 28. VII. 1920 года, настоящим доводится до сведения граждан гор. Слонима и его уезда, что все культурно-просветительные силы, как то: школьные работники [учителя], лектора, артисты, музыканты и все, окончившие высшие и средние школы, обязаны зарегистрироваться, городские в трехдневный срок со дня опубликования сего приказа, а уездные в волостном Отд. Нар. Обр. при волревкомах в 3-х дневный срок со дня опубликования сего приказа на местах.

Все указанные лица будут привлечены к широкой культурно-просветительной работе.

Неисполнение сего приказа повлечет за собой строгую ответственность.

Примечание: Служащие в гражданских учреждениях от этой регистрации не освобождаются.

г. Слоним, 12 августа 1920 г.

Слон. Уездн. Отд. Народ. Образ.

Тип. Волаха, Слоним.

прозвішчы запомніліся таму, што мы разам выехалі са Слоніма, разам працавалі па ліквідацыі ва ўпраўленні асабліваўпаўнаважанага Саўнаркамбела ў г. Раслаўль Смаленскай губерні і разам нас вярнулі ў штаб Заходняга фронту ў горад Мінск. І мы працавалі ў будынку, у якім цяпер (на час напісання ўспамінаў — “СК”) знаходзіцца ўпраўленне Беларускай чыгункі. Я была занадта маленькім вінцікам ў рэўкаме, каб у нечым разбірацца…

Працавалі яшчэ ў рэўкаме дзве дзяўчыны: Надзея Аляксееўна Парфёнава, у шлюбе Міхайлоўская, і Вера Яфімаўна Гайдук, у шлюбе Герасімовіч. Парфёнава працавала ў рэўкаме



Приказ №. 2

Слон. Уезд. Отд. Нар. Образования.

11 августа 1920 года.



ПРИКАЗ № 5.



ПРИКАЗ № 2.

Отдела Управления при Слонимском Уездревкоме

28 августа 1920 года.

Предписывается всем лицам духовного звания как-то: священникам ксендзам раввинам и др. лицам, ведшим до сих пор регистрацию рождения, смерти, браков и др., состояний граждан ______ представить в течение 3-х дней, со дня опубликования сего приказа, в Отд. Управ. при Слонимском Волостн. Военно-Револ. Комитете все книги, в которых велось подобная регистрация.

Зав. Отд. Управ. В. Обухович.

# Два месяцы на службе ў савецкай улады

*Працяг, пачатак на ст.11-13.*

ў 1918, 1919 і 1920 гадах, а Гайдук, напэўна, з 1919 года.

У 1920 годзе кепска апранутыя і галодныя чырвонаармейцы ішлі на Варшаву. У той час у рэўкаме было шмат вайскоўцаў, якія вырашалі розныя праблемы. Ніхто не чакаў таго, што адбылося. Адбылося нешта незразумелае і страшнае, і Чырвоная Армія, а больш дакладна яе рэшткі, сталі хутка адступаць. Яны былі яшчэ больш разбутыя, у адзенні зусім зношаным, немагчыма схуднелыя, а за прыняцце ежы ад насельніцтва ім пагражаў расстрэл… Ды і хто мог падаць? Прымусова выселенае ў 1915 годзе насельніцтва толькі-толькі пачало вяртацца на бацькаўшчыну, атрымаўшы адпаведныя дакументы праз эвакаўпраўленне. Многія памiралі ад тыфу ў Баранавіцкім нямецка-аўстрыйскім канцлагеры (1918 год). Што знайшлі мы ў горадзе? Жыхары горада Слоніма, якія засталіся ў нямецкую акупацыю, былі людзьмі, што займаліся гандлем, і сустрэлі нас непрыязна. Нават больш, чым непрыязна. Адразу зніклі на рынку ўсе прадукты харчавання. Гандлёвыя лаўкі зачыніліся наглуха.

Мы, рэўкамаўцы, жылі зусім галадна. Замест хлеба, як і салдаты, атрымлівалі галеты, але так мала, што месячную норму можна было з'есці за некалькі дзён. Акрамя галет нічога не атрымлівалі. Хто мог даць кавалак хлеба, той быў сыты і варожы савецкай уладзе. А хто хацеў бы пакарміць, падзяліцца кавалкам хлеба, сам яго не меў, але ад чыстага сэрца жадаў нашай Чырвонай Арміі поспеху. Наша армія ішла браць Варшаву пад кіраўніцтвам такіх



*К. Гараст*

ужо славутых военачальнікаў, як Тухачэўскі, Гай і іншыя. Крушэнне паходу было поўнай нечаканасцю для ўсіх. Загінулі многія тысячы і тысячы чырвонаармейцаў на зваротным шляху ад Варшавы.

Я, вядома, пішу пра тое, што бачыла і перажывала ў сваім невялікім акружэнні, а што было за межамі майго мікрараёна, я не ведаю і не маю права гаварыць…

У адзін вераснёўскі сонечны дзень рэўкамаўцы прыйшлі на працу. Напярэдадні выклікалі ўсіх старшыняў валасных рэўкамаў нашага павету разам з перапіскай і справаздачамі, якія накапіліся на працягу некалькіх месяцаў працы. Нас здзівіла, што разам са старшынямі валасных рэўкамаў прыехала шмат настаўнікаў і шмат іншай моладзі, што паспела вярнуцца з бежанства. Старшыня рэўкама Іван Міхайлавіч Ткачэвіч (настаўнік з Дзятлава Слонімскага павету) быў вельмі суровы, пра тое, каб яго не паслухацца, ніхто не мог і падумаць. Ён насіў вялікую бараду і мы лічылі, што ён ужо чалавек у гадах. Толькі пазней мы даведаліся, што яму было толькі 23 гады. Бясонныя ночы і напружаная разумовая праца адбіліся на яго шэрага колеру твары.

У вайну кажуць, што вецер носіць навіны. Моладзь, якая прыйшла, ад адступаючых ужо ведала, што чакае актывістаў савецкай улады, калі яны не пойдуць з арміяй. А для нас, гарадскіх, тэрміновая эвакуацыя з'яўлялася поўнай нечаканасцю. Старшыня аб'явіў: "Тры таварныя вагоны прычэпленыя да вайсковага эшалона. Адпраўленне праз гадзіну. Здавайце архівы таварышу …* і рэгіструйцеся. Загадзя папярэджваю, што ўсіх не вазьму ў вагоны. Хто не звязаны з рэўкамам працай, уладкоўвайцеся, як хочаце, у мяне шмат сямейных".

Я забегла на суседнюю вуліцу да маці і сказала, што з'язджаю з рэўкамам. Мама і сястра мой учынак ухвалілі, сказалі, што трэба з'ехаць, бо Доба Анекштэйн (гэта сям'я яўрэяў, якія пражылі ўсю нямецкую акупацыю на пакінутай намі маёмасці, і вяртанне нашай сям'і з канцлагера яе вельмі засмуціла) ужо сказала: "Каго-каго, а вашу Надзю павесяць, бо яна добраахвотна пайшла ў рэўкам працаваць". Маці ўжо дзесьці выпрасіла 400 грамаў г. зн. фунт хлебу на дарогу. Слёзаў не было. Патраціла я на развітанне з сям'ёй хвілін дзесяць, не больш, але калі прыбегла ў рэўкам, там ужо было пуста…

Не пайшла, а пабегла я на чыгуначную станцыю. Ужо ўсе тры вагоны былі цалкам запоўненыя. Старшыня, пабачыўшы мяне, сказаў: "Вы, паненка Надзя, беспартыйная

КОМЕНДАНТУ ГОРОДА СЛОНИМА ГРОДНЕНСКОЙ ГУБЕРНИИ 9 9

СДАТОЧНАЯ ВЕДОМОСТЬ №...6157

Штаба Артиллерии 27-й Стрелковой дивизии, на трофейное имущество захваченное 24. Тверским полком 80-й бригады той-же дивизии на предмет сдачи коменданту города Слонима.

| НАИМЕНОВАНИЕ ПРЕДМЕТОВ | Количество | примечание. |
|---|---|---|
| Пулеметов системы "МАКСИМ" | 6. | за №№ 7145, 17382, 89598, 44988, 39667, 14986, 14986, |
| Пулеметов Французских | 1. | № 8816, 12512, |
| Пулеметов системы "ЛЮЙСА" | 2. | №14253, 15610. |
| Пулеметов системы "КОЛЬТА" | 2. | |
| Винтовок австрийских | 3 | |
| Винтовок немецких | 10 | |
| Винтовок русских | 17. 15 | |
| Винтовок французских | 4 | |
| Запасных стволов пулемета "МАКСИМА" | 2. | |
| Лопат малых | 12 | |
| Штыков русских | 44. | |
| Гранат ручных с запалами | 1274. | |
| Патронов | 8 ящик. | |

О получении вышеперечисленного имущества прошу выслать квитанцию в Штабарт.

"26" Июля 1920 года

Действ. красн. армия

Начхоз

Пом. Военкома

Делопроизводитель.

і вам нічога не пагражае. Не вазьму!". Спрачацца з ім не даводзілася. Стаю я засмучаная, трымаю ў руках кошык, які калісьці ўласнаручна сплёў бацька. Кошык вялікі і калі мерыць на ягады, ён змяшчаў тры вядра. У гэтым кошыку быў толькі адзін фунт хлебу. На мне быў летні касцюм, які мне давала старэйшая сястра для працы ў рэўкаме (сястра магла абыйсціся без касцюма, хаця ў яе іншага адзення не было, яна мне яго аддала), на нагах боцікі на вяровачнай падэшве і гэта ўсё, з чым я з'язджаю ў Расію.

Напэўна, выгляд у мяне быў жаласны, таму што таварыш Ткачэвіч усё паглядаў у мой бок. Ён стаяў каля адчыненага таварнага вагона і нікога ў яго не прапускаў, а многія прасілі, плакалі… Мне здавалася, што ён усё ж такі мяне возьме. Раптам аказалася, што той чалавек, работнік фінаддзела, які павінен быў адказваць за архіў, цішком збег, а цягнік вось-вось адпраўляецца, ужо чутны крыкі "круці Гаўрыла!" (так яны размаўлялі тады з машыністам). Цягнік ужо пачынаў дзёргацца ад паравозных штуршкоў, як Ткачэвіч крыкнуў: "Надзя, хутчэй, павязеш у Мінск архіў замест збеглага баязліўца. Патрапіцца ён мне, як вернемся, застрэлю!". Я з радасцю схапілася за пададзеную мне руку і ён уцягнуў мяне ў вагон, у цягнік, які ўжо пачаў рух.

Праз некаторы час ужо ў наш цягнік ляцелі варожыя снарады, але ніводзін не патрапіў. Сумныя, забітыя неспадзяванкай, з рознымі перашкодамі, мы, рэўкамаўцы, нарэшце дабраліся да Мінска, да таварыша Чарвякова**. А ён ці кудысьці спяшаўся, ці толькі прыехаў, але кіраўніцтва рэўкама прыняў.

●Надзея Гайдук

**Н. Гайдук не прыгадала прозвішча ці не захацела яго згадваць.*

***Аляксандр Чарвякоў (1892 — 1937) — першы старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР. Быў рэпрэсаваны савецкімі ўладамі.*

Приказ № 1

Комендатура города 21 Июля 1920 г.

§ 1.

Мною замечено, что многие жители города Слонима отказываются принимать советские деньги, требуя царские; приказываю советские деньги принимать безпрекословно по одному курсу, как и царские; предупреждаю, что всех граждан замеченных в неисполнении настоящего приказа арестовывать для привлечения к суду по закону осадного положения. Всякий гражданин должен знать, что в советской республике советские деньги должны быть важнее других.

§ 2.

Приказываю гражданам города в трехдневный срок со дня опубликования настоящего приказа, привести в порядок улицы и дворы, которые в настоящее время находятся в загрязненном состоянии. Начальнику милиции вменяю в обязанность наблюсти за исполнением настоящего приказа и виновных в неисполнении настоящего приказа штрафовать до 5000 рублей.

Вторично приказываю немедленно открыть торговцам магазины в противном случае все имеющееся в магазинах будет конфисковано.

За порыв телефонного и телеграфного провода уличенные граждане должны быть расстреляны на месте, вместе с тем ответственны все граждане в районе жительства которых совершено умышленное повреждение. Подлинный подписал Дзержин—

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Слонімцы ў 1931 годзе




На сайце kolekcjonerski.com.pl з'явіліся дзве цікавыя паштоўкі са здымкамі даваеннага Слоніма (іх дасталі з нейкага альбома, на адвароце засталіся сляды клею). На адной з іх бачым групу моладзі каля моста праз Малы канал Агінскага па Маставой вуліцы. У мінулым нумары "СК" змяшчаў фота адкрыцця гэтага моста ў 1928 годзе, але памылкова яго назвалі чыгуначным. Дзякуй чытачам, якія заўважылі гэтую памылку. На іншым здымку — гараджане на ходніках вуліцы Сянкевіча (цяпер — Першамайскай). Ён зроблены з боку сабора, на ім бачым прыступкі да шматлікіх крамаў.

Абодва фота адносяцца да 1931 года (на адвароце кожнага з іх алоўкам напісана: 3,4, 5 траўня). На паштоўцы са здымкам моста на адвароце пазначана, што яе выдала кнігарня З. Шарашэўскага, якая знаходзілася па адрасе: вуліца Сянкевіча, 5а. На другой такой інфармацыі няма, але і яе магла выдаць гэтая кнігарня. На карысць версіі сведчыць падабенства надпісаў на фота.




●Генадзь Гурскі

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

НОВАЯ ЭРА.

**Слонім.** Я ўжо няраз пісаў, што каля Слоніма жывуць тысьцюсенькія беларусы, пераважна праваслаўныя. Ёсьць каля Слоніма многа і беларусаў каталікоў, якіх польскія шовіністы ўважаюць за палякоў. Нацыянальная сьведамасьць сярод тутэйшых беларусаў даволі моцная. Але ў царкве і ў касьцеле беларушчыны ня чуваць. У царкве пануе расейшчына, а ў касьцеле польшчына. Такім чынам нашы беларусы праваслаўныя „рускай" веры, а беларусы каталікі „польскай" веры. Гэты рэлігійны падзел глыбока дзеліць наш народ духова, накіроўваючы адных у Маскву, а другіх у Варшаву. Гэтае

...зьявішча, рэч ведамая, не натуральнае, а дзеля гэтага і шкоднае для нашага народу.

Дзеля гэтага трэба нам шукаць спосабу, які-б не дзяліў духова наш народ, а яго злучаў і мацаваў. А гэтым злучэньнем духовым зьяўляецца рэлігійная унія. Вось каля Слоніма ў Альбэртыне ўніяты і пачалі гэтае вялікае дзела для нашага народу. Яны злучаючы наш народ у еднасьць рэлігійную заводзяць у царкве беларушчыну г. зн. каб наш беларус далей не калечыў свае душы. Дык вось гэтая новая эра для нашага народу вельмі карысная і мы мусім імкнуцца яе асягнуць.

Апанас.

*Беларуская крыніца, 1931, № 41, 17 снежня.*

# Пра знак “Слонім. Заснаваны ў 1036 годзе”

Па сацыяльных сетках даўно вандруе фота знака, які ў савецкія часы стаяў на ўездах у наш горад — “Слонім. Заснаваны ў 1036 годзе”. Нярэдка ён выкарыстоўваўся, як аргумент, у дыскусіях наконт старажытнасці Слоніма. Як вядома, афіцыйна прынята лічыць, што горад заснаваны ў 1252 годзе, пад якім была першая згадка ў летапісах. Але дата памылковая. Гісторык Васіль Герасімчык давёў, што насамрэч паход князёў Галіцка-Валынскага княства на Слонімшчыну адбыўся ў 1249/1250 гадах.*

Зразумела, што Слонім значна старэйшы і пра гэта сведчаць археалагічныя дадзеныя. Патрыёты горада хацелі б, каб дата заснавання была аднесена ў сівую мінуўшчыну на два стагоддзі. І зрабіць гэта рэальна. Выдатны прыклад паказаў Васіль Пеляніцын, кіраўнік гарсавета ў канцы 1960-х — у пачатку 1970-х гадоў. Будучы чалавекам не мясцовым, ён палюбіў наш горад, пачаў цікавіцца яго мінуўшчынай. Гэта дзякуючы яму і з’явіўся згаданы знак.

У дакументальным фільме “Пеляніцын” Васіля Афанасіка былы дырэктар раённага краязнаўчага музея Ірына Шпыркова ўспамінае, як гэта адбылося:







“[Пеляніцын] сустрэў на вуліцы і запытаўся: “Ты мне скажы, што ты ведаеш пра Слонім, калі пра яго [ўпершыню] згадвалі. І я была яшчэ маладая, не падумала пра тое, што ён можа вось так зрабіць, я назвала розныя гады. Але гэта былі не ўказанні такіх дакументаў, як летапісы... І я яму назвала гэтую першую дату — 1036 год… Гавораць, што ніхто так не перакручвае гісторыю, як гісторыкі… Было напісана ў адной крыніцы, я ўжо нават не памятаю [у якой]... Што ў 1036 годзе літоўцы разбілі там кагосьці на палях слонімскіх. Але ў цяперашні час існуе такая аснова, што ўзрост горада вызначаецца толькі па самым афіцыйным дакуменце, па летапісе. Упершыню Іпацьеўскі летапіс згадвае наш горад у 1252 годзе”.

Слонімскі краязнаўца і археолаг Васіль Супрун слушна пісаў, што 1036 год — гэта памылковая дата.** Насамрэч у польскамоўных гістарычных працах была спасылка на храніста Яна Длугаша, які, нібыта, згадваў бітву на “палях слонімскіх” пад 1040 годам. Але ў Длугаша гэтага няма. Вось і атрымліваецца, што дата сумніўная.

І ўсё ж шкада, што знак на ўездах у Слонім знік. У свой час ён адыграў немалую ролю ў тым, што слонімцы, якія ў сваёй большасці не ведалі гісторыі горада, пачалі ёй ганарыцца. Было прыемна ўсведамляць, што родны Слонім старэйшы за Мінск, Маскву.

Мы маглі б праз два дзесяцігоддзі адзначыць 1000-я ўгодкі горада. На жаль, у пачатку 2000-х чыноўнікі вырашылі зрабіць стаўку на 750-годдзе. І адсвяткавалі яго.

●Генадзь Гурскі

*Іванова Н. Слонім абмаладзілі больш чым на 200 гадоў // Газета Слонімская, 2015, № 49, 2 снежня.
**Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 34.

# “У Слоніме бразгатала шкло і розныя рэчы падалі на падлогу”

Сёлета споўніцца 125 гадоў з часу падзення ў Слонімскім павеце таямнічага метэарыта. Касмічны аб’ект прыляцеў з боку Польшчы і рухаўся на паўночны усход. Ён упаў на поўнач ад Ружанаў. Магчыма, што пры гэтым адбыўся выбух, а пасля і пажар. Сведкамі пралёту і падзення метэарыта сталі шматлікія жыхары цяперашніх Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Пра гэтае здарэнне пісалі *“Гродненские губернские ведомости”*.



Фота: Pruzhany.net

Метэарыт доўга шукалі, але беспаспяхова. У 2013-м з’явілася інфармацыя, што ён, нібыта, знойдзены. На 26-кілаграмовы незвычайны камень натрапілі ў царкоўнай агароджы ў Ружанах і перадалі ў мясцовы музей (на здымку відаць, што ў экспазіцыі было памылкова напісана пра падзенне метэарыта ў 1895 годзе).

У розных публікацыях называюцца дзве даты падзення метэарыта: 25 лістапада і 7 снежня 1894 года. Відавочна, што гэта стары і новы стылі. На жаль, нам пакуль не ўдалося адшукаць арыгіналы публікацый у газеце *“Гродненские губернские ведомости”* (3 і 17 снежня 1894 г.). Але яны былі выкарыстаны выданнем *“Метеорологическій вѣстник”*, які напісаў пра здарэнне на Слонімшчыне. Гэты артыкул змяшчаем у “СК” у перакладзе на беларускую мову.

●Генадзь Гурскі



№ 1. 1895. Январь.

МЕТЕОРОЛОГИЧЕСКІЙ ВѢСТНИКЪ

ИМПЕРАТОРСКАГО РУССКАГО ГЕОГРАФИЧЕСКАГО ОБЩЕСТВА

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

“Падзенне аэраліта. З мястэчка Дзярэчын Слонімскага павета Гродзенскай губерні паведамляюць у Neue Dörpf. Zeitung, што ўвечары 7-га снежня раптам стала так светла, як днём, і праз хвіліну пасля таго пачуўся такі ўдар, што, здавалася, зямля задрыжала. Гром працягваўся каля хвіліны. Усе лічылі, што прайшла навальніца, але праз два дні справа высветлілася. Аказалася, што каля мястэчка Ружаны, у 23 вёрстах ад Слоніма і ў 43 ад Дзярэчына, упаў аэраліт вялізных памераў, прычым зямля дрыжала, як пры землятрусе. У Слоніме бразгатала шкло і розныя рэчы падалі на падлогу, таму ў першую хвіліну ўсе думалі, што сапраўды адбыўся землятрус. Пра памеры аэраліта карэспандэнт пакуль не мог даведацца дакладныя дадзеныя, але па паведамленню тых, хто аэраліт бачыў, ён вялізных, дагэтуль небывалых памераў.

Прыблізна ў той жа час — дакладныя даты невядомыя — адбыліся ў заходнім краі, па словах газет, загадкавыя з’явы, якія суправаджалі, магчыма, падзенне таго ж аэраліта, ці ж маючыя электрычнае паходжанне. У Мінску, па словах Мінскага Лістка, у 7 гадзінаў вечару моцна асвяцілася на некалькі секундаў паўднёва-заходняя частка неба, і пасля адчуўся моцны ўдар, які нагадвае грамавы. Слонім знаходзіцца сапраўды на паўднёвы-захад ад Мінска (на адлегласці 150 вёрстаў), і час згаданага метэору блізка супадае з часам падзення аэраліта ў Слоніме, таму абедзьве гэтыя з’явы зусім верагодна маюць агульнае паходжанне. Каля таго ж часу ў Гродзенскай губерні, у м. Гарадцы Кобрынскага павету (г. зн. на паўднёвы-захад ад Слоніма на адлегласці каля 100 вёрстаў)

*Працяг на ст.20.*

# "У Слоніме бразгатала шкло..."

*Працяг, пачатак на ст.19.*

і ў м. Поразаве Ваўкавыскага павету (г. зн. на захад ад Слоніма, на адлегласці таксама каля 100 вёрстаў) назіраліся аднначасовыя атмасферныя з'явы, у правільнасці апісання якіх вельмі пажадана было б пераканацца. "Пры ціхім надвор'і па нябесным зводзе разлілося яркае сінявата-белае святло. Услед пасля пачуліся грымоты, якія працягваліся 4 хвіліны. Праз некаторы час на захадзе тройчы блiснула маланка, але без грому, а праз хвілін 27 на паўночным захадзе з'явіўся светлавы слуп, конусападобнай формы і быў звернуты вострым канцом уверх" (Гродзен. Губ. Вед.)".

*Метеорологическій вѣстник (Санкт-Пецярбург), 1895, № 1. Студзень. С. 33-34.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

## Замосце, 1916 год




На сайце ebay.de з'явілася слонімскае фота 1916 года. На ім бачым разбураны касцёл святога Андрэя і будынкі каля яго. На пярэднім плане — група вайскоўцаў. Ці не ваеннапалонныя гэта? Магчыма, гэта вясна. Відаць, што на Замосці, якое моцна пацярпела падчас баёў, ўжо наладжваецца жыццё.

●ГГ

## Леанід Мальцаў узначаліў інстытут



Фота: sb.by

Наш зямляк, былы міністр абароны, экс-кіраўнік Савета бяспекі і Дзяржпамежкамітэта Беларусі генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў* узначаліў Інстытут дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання пры прэзідэнце РБ. У апошнія гады ён працаваў у міжнародным універсітэце МІПСА, быў там прарэктарам па інавацыйнай працы і навуцы.

**Гл. апошнюю публікацыю пра яго на старонках "СК": Чыгрын С. Кнігі генерала Леаніда Мальцава // Слонімскі край, 2017, № 12(22). Снежань. С. 16.*

## Альбярцінскі прытулак




У Альбярціне ў будынку па вуліцы Войкава (былой Касцельнай), 21А адкрыўся часовы прытулак для начнога знаходжання. Адначасова яго паслугамі могуць карыстацца 12 чалавек, якія не маюць даху над галавой. Першы наведвальнік прыйшоў 10 студзеня, піша "СВ".

"Слонімскі край" — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару Сяргей Ёрш.

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.